Дасылаецца дармова.

# СЬВІТАНЬНЕ

№ 1.

Штомесячны літарат.-мастацкі дадатак да „Нашага Працаўніка“

| 1926. | ЛІСТАПАД. | 1926. |
|---|---|---|

Алесь Валошка.

## За зямлю.

Ня сьпіцца Сьцепану Нагорнаму. Цяжка варочаецца ён на абдэрсанай маце, пасьцеленай на сырой зямлі ў бліндажы, дзе покатам разьлегліся яго таварышы.

Толькі варта часта мяняючыся парушае сумрожны спакой паўцёмнага бліндажу і пакуль знойдуць сабе месца, дзе прымасьціцца прамерзшыя дазорныя, гулка раздаецца сочная, мацёрая лаянка, якая так далёка славіць расейскага чалавека. Але ў неўзабаве зноў сьціхае ў бліндажы, і толькі храпеньне, змардованных цяжкім франтавым жыцьцём, салдат гаворыць аб тым, што тут яшчэ жывыя людзі.

Ужо чацьвёрты год мардуецца Сьцяпан на вайне. Быў некалькі разоў ранены і нават вось цяпер, калі разгулялася гэтае пякельнае васеньняе надвор'е, круціць усе жылы ў нагах, вострай больлю рэжа ў лытцы, дзе дзякуючы недагляду дахтароў застаўся асколак шрапнэлі.

Чатыры гады, гэтага гаротнага жыцьця, калі кожную хвіліну рызыкуеш застацца без галавы, калі нявідзімы вораг сьцеражэ цябе на кожным кроку, як нейкага затраўленага зьвера, налажылі на Сьцяпана сваю пячатку.

Ды й ці вораг? Хто ён? Чаму вораг? Калі ў жыцьці сваім ён ні разу ня бачыў яго, ня меў з ім ніякага дачыненьня.

Многа аб гэтым гаварылі афіцэры. Дзіўным усё здавалася Сьцяпану, але мусіў верыць, хоць ніяк у яго мужычай галаве не ўмяшчалася тое, аб чым што дня чуў ад начальства. Але прызвычаены ад самага малалецтва да заўсёднага паслушэнства, маючы заўжды над сабою шмат начальства пачынаючы ад соцкага і папа і канчаючы земскім і валастным старшынёю, якіх вымушан быў слухаць, калі не хацеў сядзець у „халоднай“.

Вось чаму слухаў і цяпер.

І хоць ня верыў ні ўвошта, але добра выконваў загады. Нават „гэроям“ яго лічаць, начапілі, на грудзі беленькі крыжык за тое, што рызыкуючы жыцьцём працягіваў дрот тэлефону-палявога, пад страшэнным абстрэлам ворага.

Але для чаго ён гэта рабіў, у чым яго „гэройства“ калі начальства загадала, ён ня ведаў і да гэтага часу. Але вось тое, што нага не дае спакойна павярнуцца, тое што боль ў назе пякельная,—гэта ведаў ён добра і кляў, на чым сьвет стаіць усіх хто пасылаў яго на гэту разьню.

Ведаў, што калі вернецца да хаты, то цяжка яму будзе працаваць, які з яго работнік—хворы, выбіты з жыцьцёвае каляіны.

А гаспадарка зусім зруйнаваная. Лісты, якія вельмі рэдка атрымлівае ад сваёй жонкі Гапкі, якая з малымі дзяцьмі засталася ў двары, ня цешаць зусім.

За чатыры годы амаль зусім разбурылася яго кволая гаспадарка і бедная жанчына з кожным лістам сумрожней і сумрожней глядзела на будучыну і клікала варочацца Сьцепана, каб хоць рэштку гаспадаркі адратаваць ад зруйнаваньня.

Доўга цягнецца васеньняя даждлівая ноч. Пчаліным роем мітусяцца думы ў Сьцяпана.

Успомніў раптам аб тым, што гаварылася апошнія дні на мітынгах. Яскрава ўявіў сабе фігуру салдата-бальшавіка, які стоячы на стале, замест трыбуны, заклікаў канчаць гэту безкарыстную вайну. Казаў аб тым горшым і сапраўдным ворагу які застаўся ў тылу, які толькі і імкнецца яшчэ болей прыгнячаць працоўнага чалавека. Гаварыў аб зямлі, якую цяпер трэба рашуча адабраць ад паноў і кулакоў.

Ах, гэта зямелька! Колькі год біўся Сьцяпан на мізэрным кавалачку, галадаваў, ледзь-ледзь прабіваўся. Ён зайздрасна глядзеў на вакаляючыя маёнткі. Хоць бы дзесяціну і то куды лягчэй жылося-бы яму гаротнаму. А цяпер, калі ёсьць магчымасьць яе забраць, як-жа не скарыстаць гэтага.

—«Толькі той хто працуе, мае права карыстацца зямлёю» гаварыў далей прамоўца —«зямля—сялянам, фабрыкі—рабочым»—як звон шумела ў галаве Сьцяпана, апошняе слова сказанае на мітынгу...

Бу-у-у-ум! гвалтоўна прагучэў неўдалі выбух снараду. Гулкае рэха пранеслася па здратаваных палёх і абудзіла прытаіўшуюся прыроду.

Аж уздрыгнуў Сьцяпан ад неспадзянкі. Выкляў, як умеў заўцяцей. Падняўся з маты і апусьціўшы галоў паміж паднятых да барады каленкаў, зноў як бы задумёны заснуў.

Нехта пакратаў яго за плечы. Адвярнуўся. Перад ім Алесь Груз, зямляк з суседняй воласьці.

—Што, браток, засмуціўся? Да хаты хочацца?

Зьдзіўлена, як-бы не разумеючы, глядзеў Сьцяпан, нічога не адказваючы.

—Ды ты ня бойся! Свае людзі. Я вось таксама галаву сушыў. Але цяпер годзе! Я болей ня слуга. Чаго тут сядзець? За каго галавою прыдзецца мо‘ налажыць?

—А як-жа? Што-жа ты зробіш? Нас, як бачыш ня пытаюцца!

—Э-э! Што зробіш? Рабем так, як бальшавікі кажуць! Пойдзем да хаты, ды будзем паноў ды кулакоў грумзгаць! Ды новае жыцьцё начнём будаваць. Нам ўсё роуна няма чаго губіць акрамя зьдзекаў і гаротнае долі!

І не чакаючы адказу ён ціханька пачаў зьбіраць сваю торбу, перабуваць боты.

Гледзючы на яго сабраўся і Сьцепан. Асьцярожна і прытуліўшыся да сьценкі бліндажу, як нейкія злачынцы пакінулі бліндаж, каб вырвацца зусім з гэтага пекла. Ціха крадучыся, але з вераю шчыраю у новае жыцьцё з новымі мэтамі і па новаму шляху.

За зямлю! за новае жыцьцё!

* * *

Прайшло 9 год, Пастарэў ужо Сьцяпан і сівыя валасы пасмамі выбіваюцца з пад шапкі. Гады грамадзянскай вайны, бойкі з астаткамі белых арміяў, галадоўля і разбурэньне ўсяе гаспадаркі вымагалі надта вялікай напружнасьці. Сьцяпан не апошні быў у гэтай вялізарнай барацьбе працоўнага люду з сваімі прыгнетацелямі.

Сёньні на грудзёх у яго красуецца пераліваючыся ў сонечных праменьнях ордэн чырвонага штандару, ў кішэні яго абношанай сьвіткі ляжыць чырвоная замусоленая кніжачка, якая з цягам часу досыць ужо патрапалася і на якой напісана

Камуністычная Партыя (бальшавікоў) Беларусі

**Сяброўскі білет**

І цяпер Сьцяпан Нагорны, старшыня камуны, што зьмясьцілася на палёх быўшага маёнтку, сьмела і рашуча будуе шлях новага сьветлага жыцьця.

**Я. Івашын.**

# ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК.

Лунаюць скрозь чырвоныя штандары:
вялікае к нам сьвята надыйшло.
Зьлілося ўсё—сьцягі, народ і песьні—
ў адно чырвона-бурнае сьвятло.

Цябе, Кастрычнік наш Вялікі, я вітаю;
хай ведае аб гэтым цэлы сьвет.
У бурных гарадох і ціхіх вёсках—
твой скрозь відаць чырвоны сьлед!

Парваў навек ты ланцугі прыгнёту,
нясем аб сьветлай волі гучны кліч.
На дзіва дзіўнае усім народам
узьняў цябе вялікі наш Ільліч.

У вуснах ачуняўшага працоўнага народу
зьвініць чырвоны гымн заранкавых вякоў.
І вестка аб жыцьці яскрава-творчым
ляціць маланкай навакол.

Ідуць працоўныя бязьлічнай грамадою;
бурлівай павадкай яе нясецца плынь.
Яны ідуць магутнаю сям'ёю
да працы творчай—як адзін...

Няхай жыве Кастрычнік наш Вялікі—
чырвоны правадыр да новага жыцьця!
Няхай-жа бляск яго зазьзяе над сусьветам!
Няхай жыве чырвоны сьцяг!

**Галоўны сэнс Кастрычнікавае рэвалюцыі замыкаецца ў тым, што яна ўпяршыню пасьля кароткага існаваньня Парыскае камуны зьдзейсьніла дыктатуру пралетарыяту і адчыніла сабою пачатак міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі.**

(т. Абезгауз і А. Протасов: **«Ленинская учеба»**).

А. Александровіч.

## Песьня вёскі й фабрычных станков.

У полі зялёнаю ноччу
жалейкай зьвіняць агні.
А ў горадзе песьні рабочым
на колах пяюць рамяні.

Машына песьняй гоцкае,
стужкі кідае наўкруг,
каб хутчэй, хутчэй у вёску
пасланць сталёвы плуг.

Заўсёды: позна, рана
крынічыць фабрычным жыцьцём.
Каб хутчэй машына-дынама
разьліла свой сьпеў над сялом.

Селянін і рабочы. дарога
працярэблена вамі адна!
Прамінулі часы убогія—
сёньня ў восені наша вясна.

Ні Пятро, ні Ільля—аружжам
тваё поле ўбяруць аксамітам.

Ты ня богам, вёска, акружана,
а сваёю рукой працавітай...

Помнім, помнім прыжмураны Ленін
табе, вёска, сказаў:—дай руку!
І сёньня машынай прамені
ў тваім сэрцы радасьць друкуюць.

Свае хаты аздобіш снапамі,
вёска, сьвята твае, твой звычай!
Сваю працу сваімі рукамі—
зьбірай, вёска, у свой ураджай!

Ты сьвяткуеш, сьмяюцца вочы,
каласіцца вясковы сход.
Я вітаю цябе—ад імя рабочых,
падарункам трактар паслаў завод!

Хай у сто звонаў зялёны гоман
разьліваюць калосьсі палёт.
Крок за крокам ідзём у жыцьцё мы
з песьняй вёскі і фабрычных станкоў.

Я Івашын.

## ЧАС ПРЫШОЎ....

Час прышоў:
вайны руіны
адбудоўвае наш край....
Гэй, рабочы з селянінам
сьветач веды уздымай!

На заводах
і на вёсках
хай зазьяе ён агнём.
Мы рашуча і бадзёра
ў бойку з цемраю ідзём.

Дзе ня сьвецяць
сонцам руні,
дзе пануе ночы змрок,—
наш хаўрус туды пасуне
свой рашучы, цьвёрды крок.

Быт стары
зьмяцём змаганьнем,
пабудуем новы сьвет.
І пра дзівы будаваньня
скажа ўнуку сівы дзед....

Дык хутчэй,
браты, ў дарогу!
Час ня будзе нас чакаць.
Ў бойку з цемрай, дружна ў ногу,
змагароў чырвоных раць!....

Язэп Пушча.

## ЗАЗВАНЕЦЕ.

Зазванеце, зоры па-над кручай!
Хай ня журыцца газьніца бляскам,
Хай сыгнал электрыкі бліскучай
мільгане ў лучнік сялянскі.
Хай-жа тут па хатах саламянных
на калені стане бляск сталічны,
і няхай у лесе на паляне
Зьвер абліжа яго твар-аблічча.
Хай-жа ў кожным сельсавеце
заляскоча клёкатам дынамо,
і няхай ў клянова-медным веццi
пранясецца век з стальнымі днямі.
Хай-жа бразнуць радасьці падковы
ў дынамічна-звонным гоне.
Я ў вачох вясёлкава-вясновых
сказ аб гэтым прачытаў сягоньня.
І мяне ўжо боязь нятрывожыць..
Хай машынай вёска весяліцца.
Селянін ня зьнікне ў куст, як вожык
калі ўчуе яе лёскат у лісьці.
Не баіцца ўжо ён больш матора,—
ўцякаць ня хоча ў вербалозы.
Так было, было яшчэ учора
А сягоньня трактар дай ў палосы.
Дык званеця, зоры, па-над кручай!
Хай ня журыцца газьніца бляскам,
хай сыгнал электрыкі бліскучай
мільгане ў лучнік сялянскі.

# Сусьветны Кастрычнік

Інсцэніроўка ў І-й дзеі **С. Музыкі.**

## ЗЬЯВА 1-я

Перад пачаткам дзеі з—за апушчанай заслоны чутны моцныя гукі сьпеву Інтэрнацыяналу. На прасцэніуме з-за заслоны выходзіць стары сівы рабочы з унукам 6-х гадоў.

**Унук:**—Дзед, а дзед, хто гэта моцна так пяе?

**Рабочы:**—Рабочыя, унучак. Сягоньня працоўныя сусьвету сьвяткуюць Вялікі Дзень Кастрычніку і хутка ўжо на цэлым сьвеце ня будзе цароў, паноў і фабрыкантаў. Але, чакай... Зараз ты ўбачыш—малюнкі будучага жыцьця.

(Даецца заслона)

## ЗЬЯВА ІІ-я

Сцэна прадстаўляе вялізарны, багата абсталяваны, палац. Мрамарныя калёны. Гэта цяпер Палац Працы.

У глыбі сцэны стаіць помнік—бюст Уладзіміра Ільліча Леніна, Ля яго на варце стаяць рабочыя ўсіх краін, узброеныя нацыянальным сваім аружжам, але ўсе з чырвонымі зоркамі на грудзёх.

Асьвятленьне на сцэне—ярка чырвонага колеру.

**РУПАР.***) (на фоне Інтэрнацыяналу).

Цаўстаў ад веку прыгнячоны**)
Ўвесь сьвет галодных і рабоў!
Рабочы гневам ап'янёны
Нізрынуў гнёт сваіх акоў.

**Унук:**—Дзед, а дзед, як тут прыгожа!

**Рабочы:**—Але, цяпер прыгожа, унучак. Раней-жа тут нязначна горсьць буржуа драпежных штодня піры спраўляла, і віны рэчкамі лілíся, як і кроў працоўная ў працы непасільнай на ўладароў гэтага багацьця. Але неўмагату зрабілася цярпець рабочым і...

**РУПАР.**

Гарацъ палацы казяматы,
Цары нізрынуты з траноў.
Чырвоныя гудуць набаты
На ўсіх сусьветных плашчадзёх.
Спакойна, цьвёрда і напэўна,
Як бязупынны рытм мінут,—
Удары сэрца Камінтэрна
Долю лепшую куюць.

**Усе**—((калякты ўнак чытка)
Спакойна цьвёрда і напэўна
Як бязупынны рытм мінут,—
Удары сэрца Камінтэрна
Нам долю лепшую куюць.

**Унук:**—Дзед, а дзед, навошта людзі тут са зброяю стаяць?

**Рабочы:**—То варта заваёў працоўных, гэта варта павадыра рабочай клясы (запаліваецца сьветам плякат з надпісам: «Ленін—Кастрычік».)

**РУПАР.**

Пранёсься кліч яго магутны
Над усёй замучанай зямлёй...
Барацьбе бяз жаласьці і даўнаў
Мяжа паложана.
Цяпер-жа працаў вольнай, слаўнаў
Заняты будзе чалавек.

**Усе**—(калякты ўнаа чытка)
Усе краіны і народы
Пачалі жыцьцё будаваць!
Працы, роўнасьці, свабоды
Штандары чырваньню гарацъ!

*) Голас з-за куліс: моцны, спакойны, цьвёрды, ясна гаворачы.

**) Пераклад з расейскай мовы.

**Унук**—Дзед, а дзед, што тут цяпера будзе?
Пад што пайдуць палацы гэты?
**Рабочы**—Цяпер тут будзе Цантральны Спаўняючы Камітэт Саветаў Рабочых і Сялян.

ЗЬЯВА III-я.

(раптам адчыняюцца ўваходныя бакавыя дзьверы—брамы праз якія ўваходзяць стройнымі шэрагамі са сьцягамі рабочыя, работніцы, сяляне і сялянкі ўсіх нацыянальнасьцяў у нацыянальных вопратках і, з раней быўшымі на сцэне, перагрупіроўваюцца абапал бюсту роўнымі калёнамі—групамі).

**РУПАР.**

Слаўныя сыны працоўнага народу
Ідуць на сход адзінае сям'і.

**Унук**—Дзед, а дзед, чаго сюды народу гэтулькі прыйшло?
**Рабочы**—Яны сабраліся сюды ў дзень Кастрычніка аддаць должнае вялікаму настаўніку і правадыру сусьветнага пралетарыяту—Уладзіміру Ільлічу Леніну,

(Запальваецца плакат): **«Ленін жыў у сэрцах рабочых і ва векі не памрэцы!»**

**Усе**— (з апушчанымі сьцягамі, павярнуўшы галовы к бюсту)
Цябе вітаем слаўны гэні,
Прышоўшы ў часе барацьбы!..
З табой на новая ступені
Ўзыйшлі ўчарашнія рабы.

(Гасьне ўвесь сьвет, акрамя плакату).
(Бюст тож асьвятляецца слабым сьветам фіалетавага колеру.

**РУПАР.**

І вас вітаю вяліканаў,
Свабодных гэніяў жыцьця!
Зьзяе грозных гураганам
Пяцёхкутовая зьвязда.

(Запальваецца зьвязда над бюстам).

Сьвет стары згінуў, заглушоны
Ударам уздыбленых капыт.
Над сьветам молат занясёны
Стары парадак ўшчэнт драбіць!

(Поўны сьвет Чырвонага колеру)

**Усе**—Гарыць зара! Цямнеюць зоркі!..
Праменьні сонца сьвецяць нам.
Няма больш рабства і няволі
Раней прычнечаным рабам!

**РУПАР**

Але успомнім у дзень спакою,
Надзеяў, шчасьця і вагню
Аб брацьцях паўшых, як гэроі,
За сьцягі сёньняшняга дню.

(Музыка ціха пачынае іграць пахаронны марш на фоне якога ўсе дэклямуюць, з апушчанымі сьцягамі.)

**Усе**—Кроў брацьцяў тут нас аб'яднала,
Спаяла гневам і вагнём...
Мы іх сьвежыя магілы
Прыгожа сёньня прыбяром.

(Пасьля маршу ўдар гонгу).

**РУПАР.**

Кастрычнік роджаны ў буры,
Прайшоўшы зычны бой баёў,
Прывёў к шчасьлівай хвілі жыцьця
Сваіх нязьлічаных сыноў!

**Усе**

Прыйшлі часы,—што не паўторна!
І больш няма шляхоў назад!
І сьвеціць сонца Камінтэрна
Над крывёю сьвежай барыкад!..

(Ухканцы калактыўнай чыткі музыка пачынае іграць Інтэрнацыянал, які ўсе ўдзельнікі разам з публікай пяюць).

КАНЕЦ.

Клімавічы 28-X—1925 г.

# Маладняк вясновы.

„Травы падают под косой,
Их можно выжеч огнем,
—Но нельзя сказаць весенней земле:
Не роди буйных твав,
Не разметай изумрудных цветов их.—“
(З вершу пралетарскага паэта выспы Явы).

Ня мала траў і кветак было скошана касой царскага ўраду, ня мала іх было выпалена агнём, але і на папялішчах вырасталі буйныя травы і разьметалі свае ізумрудныя кветкі—яны раслі..

За межамі, у старонках нацыянальнага прыгнёту, усё здаровае, творчае і цяпер прымушана падаць пад касой нацыянальнай траўлі, але ці-ж можна загадаць вясновай зямлі не раджаць буйных траў, ці-ж магчыма спыніць раньнюю усходзячую зорку?.. У цяжкай няволі растуць і гартуюцца нацыянальная творчасьць і культура у старонках, дзе пануе капітал.

Ня тое ў нас. Наша Беларусь, вызваленая перамогай Кастычніку, на падставе гаспадарчай адбудоўлі краіны, шпарка разьвівае сваю, раней прыгнечаную і адсталую, культуру... Наша вясновая зямля, узнятая плугам Кастрычніка, прыносіць свае плады. Пазбаўленыя царскае і памешчыцкае касы буйная травы разьмятаюць свае чырвоныя кветкі, не падрэзаемыя яны даюць прыгожы бутон.

№ 5—6 „МАЛАДНЯК КАЛІНІНШЧЫНЫ“ у гэтым сэнсе, бязумоўна, зьяўляецца сочным пладом Маладнякоўскае працы к восені 1926 г.. каштоўным падарункам і вялікім абяцаньнем к дзевяцёхгодзьдзю кастрычнікавае рэвалюцыі

Шпарка расьце „Маладняк“. Нараджаюцца новыя паэты і, пісьменьнікі. Смешнымі пры гэтым выглядзяць усялякія сумленьня ў правіловасьці вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

На першы погляд кідаецца ў значнай меры шэрая вокладка. - Злы пасьпешны язык наклаў-бы адпаведны адпячатак на нутро зборніку, а гэта было-бы пасьпешна. гэта было-б і памылкова.

„Маладняк Калінішчыны“ зьяўляючыся органам акруговага камітэту ЛКСМБ і філіі „Маладняка“ прыстасован да абслугоўваньня масы камсамольцаў, моладзі і яе выхаваньня.

Самая вялікая небясьпека, у справе выхаваньня моладзі выцякае з сялянскага характару акругі, адсюль—самае галоўнае у нашых умовах гэта забясьпячэньне партыйна-пралетарскагу кіраўніцтва,-аб гэтым мусіць прыдзецца ня раз пісаць і зусім правілова артыкул СЫМОНА ДАКУЧЫЦА „Аб партыйна пралетарскім кіраўніцтве ў камсамоле“—займае першае месца у разглядаемым нумары. Няма ніякай патрэбы пераcказываць асобныя месцы артыкулу: каротка і ў значнай меры проста і яскрава растлумачана пытаньне так, як яно стаіць у саюзе. Артыкул вельмі карысны для камсамольцаў сялянскіх ячэек, для сялянскай моладзі, а таксама для гарадзкой і местачковай часткі акруговай арганізацыі.

Літаратурна-мастацкі разьдзел прадстаўлен адзінаццацьцю вершамі, трама апавяданьнямі, п'есай „На Усход“.

ПАДАБЕД ЯЗЭП, аўтар: „Марусі студэнткі КомВуза“, нас крыху ґзьдзіўляе: прыгожы па форме, гучны мастацкі апрацованы верш „Ліст Брату“, ня можа нас здаволіць па зьместу.

„Падумай сам: я не малы. Як лопух, вуха
я не настаўлю і ня буду слухаць,
што будзе мама ласкава казаць.
Пакінуў двор—і не вярнуся болей
глядзець на нізкастрыжанае поле,
і на каня, што чэша зад“?.

Не згаджаючыся з старой маці, ён чамусьці пакідае двор. Ен ня хоча глядзець на нізкастрыжанае поле. У тым, што ён ня хоча слухаць маці мы ня бачым прычыны, каб пакінуць двор. Можна падумаць, што аўтару наогул абрыдзела вёска. На наш погляд належыла-б заклікаць да будаўніцтва новае вёскі, замест таго, каб пакідаць двор.

Падабеду, як паэту беларускаму, сялянскаму, асабліва не спадабае рваць з вёскай, наадварот—трэба скарыстоўваць маючуюся сувязь, дзеля таго, каб чэрпаць матывы, зразумелыя вёсцы, уплываць на яе. Толькі так трэба ставіць нашу задачу: будаваць культуру нацыянальную па форме, пралетарскую па зьместу.

„Ліст брату“ радніць Падабеда з шмат іншымі камсамольскімі паэтамі, у яго таксама, як у іх не адчуваецца нянавісьці да старой маці, але тыя без нянавісьці вядуць барацьбу у той час, калі ён яе пакідае.

— Мілы друг—, выпрамляе некаторым чынам думку аўтара.

„Мілы друг! Ад цябе я далёка,
Але йдзём да адзінае меты,—
Знаем добра абое, як лёгка,
Будаваць нам краіну Саветаў.“

Ён разумее цяжкасьці будаўніцтва краіны саветаў і заклікае:

„Мілы друг! будзь і тут камсамолкай,—
Хай напорнасьць ня моўкне ніколі.

Падкрэсьліваем яшчэ раз, вершы паказваюць рост паэта з боку мастацтва, формы апрацоўкі, асабліва каштоўным з гэтага боку трэба лічыць:, „Ліст брату“.

Вершы, як звычайна прадстаўлены багата. Нельга прайсьці міма Астапенкі. Яго вершы „Я пашоў у горад“ і „У навуку“, адбівае адну і ту-ж думку, асабліва другі, і абяцаюць нам шмат падарункаў ад маладога паэта.

Вельмі прыгожа і удала месцы:

„Я пад шум апаўшых лісьцяў,
Даараўшы паласу,
На зіму свой плуг абчысьціў,
Серп павесіў і касу“.

Ня горш і іншыя месцы:. Але тут таксама ня зразумела чаму аўтар верша „Я пашоў у горад“ хоча абавязкова зьвярнуцца ў сэрцы мужыком...

Навучысь—зьвярнуся такі самы я,
„Буду ў сэрцы я заўжды мужык“
............... ......... і далей
„Узару цябе па новаму зьвярнуўшыся
„Паласа з травою на мяжы“.

Мала зьвярнуцца толькі культурным гаспадаром, зразумела, што трэба зьвярнуцца блізкім, зразумелым весцы, такім трэба зьвярнуцца абавязкова, але ў сэрцы зусім не патрэбна зьвярнуцца мужыком. Мужык, селянін, зусім не адзначае сабой, не увасабляе, тое добрае, што мы павінны несьці з гораду—калектывізм, арганізацыя, дысцыпліна.

Заставацца ўласьнікам, індывыдуалістым у сэрцы малады паэта не павінен імкнуцца.

Прыгожы і цікавы верш КАРАЧУНА, крыху шарахватая „Песьня“ РАДЧАНКІ. Вершы прыехаўшага да нас з Бабруйшчыны ІВАШЫНА—складаюць добрае уражаньне пры разглядзе літаратурна—мастацкагага разьдзелу часопісу па частцы вершаў.

Але і проза на гэты раз прадстаўлена ня горш.—„Байструк“, бязумоўна, зьяўляецца цэнтрам аддзелу прозы. „Байструк“—каму невядома гэта клічка. У багажы слоў, як дарослага, так і маладога селяніна (несьвядомага) яно займае пэўнае месца, іншы раз пад другой назвай. А маленькім байструкам, колькі раз ім прыходзіцца слухаць гэтую клічку, гэта „прозьвішча“. Калі вы чытаеце апавяданьне, перад вамі адзін за другім паўстаюць малюнкі вясковага жыцьця. Аўтар вядзе і вы ахвотна сьледуеце за ім. Гэта лепшы сьведак таго, што аўтар уладае пяром і фарбамі. Нельга не запамятаць месца:—

„Бай—ай—струк! Бай—ай—струк! А дзе твой тата?“—і далей.

—„Мама, родная, чуеш? За што?..За што?“—альбо:

—„від някранутага дзявоцкага цела, адурыў яго... Як звер, накінуўся...благаньне... Упрашаньне, сіла—нічога.

Потым чарга... Колькі іх?

Раніцаю паехалі.. Сіваю стала Ганна за адну гэту ноч“.

Цяжка не запамятаць сцэнку з Сідарам—пастухом, навучыўшага Янука чытаць; вельмі праўпадобна, рэальна апісаны іх адносіны, гутаркі і інш.

„Байструк“ дапаможа ў значнае меры ў выпрацоўцы ў моладзі рысаў людзкасьці. аб чым тав. Луначарскі ў сваім артыкуле аб Караленку у „Комсамольскай Правде“, кажа, што пры жорсткасьці, цьвёрдасьці, якія патрэбны ў нашу эпоху нам неперашкаджала-б некаторая доля людзкасьці, чалавечнасьці. якая была ў Караленкі.

Забаронцы Расеі, царскія афіцэры паказаны ў іх сапраўднай ролі. Малюнак вельмі карысны і патрэбны дзеля выхаваньня моладзі нашае акругі, няпамятуючых дней бойкі, нявядаючых пэрлаў польскіх легіонаў. Забягаючы ўперад. мы скажам, што ня можам згадзіцца з „ЮРКАЙ ЛЯВОННЫМ“. Наконт зьместу апавяданьня Валошкі—„На бацькаўшчыне“, непадкрэсьліўшы вышэй памянёнае, маючы на ўвазе, што часопіс абслугоўвае моладзь акругі. Ня мастацкім выглядзіць канец апавяданьня, дзе ЯНУК разважае аб арганізацыі пралетарыяту. Ёсьць яшчэ некаторыя недахваты, разгляд якіх у гэтым артыкуле мы ня ставім задачай.

Не бяз хваравітасьці прасоўваецца Анціпенка. „ПАСТУХ СЫМОН“ ня волен ад пратакольнасьці, якая сільна паслабляе якасьць, мастацкасьць твору.

Аўтар „Неабходнае“ мацнее, пры некаторых недахопах, законных. Вігура вырастае ў прозе і пачынае становіцца майстрам сваёй справы.

Калі чытаеш „Неабхаднае“ мімавольна шкадуеш чаму Вігура не абарала больш новага сюжэту. Аўтар бязумоўна знаходзіцца пад уплывам шэрагу твораў і пісьменнікаў, дзе Зарэцкі знаходзіцца не на апошнім месцы.

„На ўсход“, як простая п'еса, зможа быць разыграна любой камсамольскай ячэйкай, любым драмгуртком. На наш погляд яна крыху кульгае ў правіловасьці абрысоўкі СЫМОНА, і ЭНТЫ. Ня умела падабраны канцоўкі—малюнкі, вялікія, нічога не азначаючыяся, гэта значны недахоп.

Тэхнічна зборнік выдан досыць добра. Часопіс якасна паляпшаецца, навакол яго згуртованы значные сілы філіі „Маладняка“, сілы маладыя. Спадзяёмся убачыць чарговы нумар яшчэ лепшым.

*СЫМОН С.*

Дасылаецца дармова. | Пролетары усіх, краёў злучайцеся!

# СЬВІТАНЬНЕ

№ 2.

..томесячны літарат.-мастацкі дадатак да „Нашага Працаўніка“

..926 | СЬНЕЖАНЬ | 1926

**Падабед Язэп**

## Да трохгадовага юбілею „МАЛАДНЯКА“.

„Заіскрыла сонца-вір агню... Буралом спаліла з гольлямі! Зьнікл хмары і...пад чырвоньню ўсе прасторы сталі голымі.
А сягоньня—чутны водгукі:—Нам расьці, дык мала дня!—Толькі тут узьнецца мог такі волат лес—Наш Маладняк“.

Міх. Чарот.

„... Знаем—намі пройдзеных пуцін не забыць, ня зьнішчыць, не закрэсьліць. Ня спыняцца, а далейісьці—да жыцьця, да радасьці і песьні“.

Ал. Дудар.

### Маладняк—гэта строма з бурных, вірлівых крыніц Вялікага Кастрычніка.

..ялікі Кастрычнік 1917 году зрабіў ..кі сацыяльны пералом у царскай ..і—ён яе ператварыў у вольную ..ну Саветаў, у вольны саюз раней ..душаных і загнаных нацыяў. Стары ..кі уклад і законы паляцелі стар- ..спапялелі ў агні сацыяльнай рэ- ..цыі.

..наша Беларусь з часткі „Запад- ..края единой, неделимой Росии“ .. самастойнай рэспублікай саветаў. ..эты вялікі пералом ня мог не ..ць належных зьмен у нашай літа- ..ры. Літаратура — гэта люстэрка ..цця. А раз так, значыць,—працэс ..залай сацыяльнай ломкі, працэс ..а, сацыялістычнага, будаўніцтва ..ны былі знайсьці свой адбітак і ў ..атуры, дакладней кажучы—павінны былі стварыць новы этап у літаратуры.

І яны яго стварылі.

Дарэвалюцыйная беларуская літаратура была ў свой час рэвалюцыйнай, але зараз яна не змагла здаволіць новых запатрабаваньняў. Патрэбна была літаратура з глыбокім пралетарскім зьместам.

Апрача таго, нашы старыя пісьменьнікі былі асьлеплены, зьбіты з панталыгу такім пераломам і не маглі адразу адшукаць правільнай дарогі.

Вось у такі вострый момант у нашай беларускай літаратуры, рабочыя і сяляне вылучылі з сваіх гушчаў новых поэтаў і пісьменьнікаў, якія на грунце ідэалёгіі камуністычнай партыі аб'ядналіся ў арганізацыю «Маладняк».

Маладнякоўцы адразу рашуча і упэўнена сказалі, што яны, будучы кроўнымі сынамі рабочых і шырокіх працоўных сялянскіх масаў, прышлі каб ідэі Марксызму-Ленінізму праз мастацкія творы паглыбляць у масы.

І яны на працягу трох гадоў сваёй дзейнасьці цьвёрда выконвалі сваё абяцаньне.

## Рост „Маладняка". Першы крызіс. Выхад групы таварышоў, як паказальнік ідэёвага росту арганізацыі.

«Маладняк» быў выклікан самім жыцьцём і гэта забясьпечвала і забясьпечвае яму далейшы росквіт.

Калі 28 лістапада 1923 году група таварышоў (Чарот, Александровіч, Дудар, Пушча, Бабарэка, Вольны) у ліку 6 асоб распачала працу па арганізацыі аб'яднаньня, дык на лістапад 1925 году (к часу І зьезду «Маладняка») у «Маладняку» ўжо было каля 200 сяброў і да 300 студыйцаў.

Гэта вельмі ярка паказвае да чаго вялікаю і моцнаю была цяга маладых сіл з рабочых і сялян да «Маладняка».

Да красавіка 1925 году існавала **група «Маладняк».** У красавіку-ж на 1-м пленуме «Маладняк», дзе былі прыехаўшы прадстаўнікі філіяў большасьці акруг (Калінінскай тады яшчэ ня існавала), было ухвалена пераназвацца ва **Усебеларускае Аб'яднаньне паэтаў і пісьменьнікаў.** На гэтымжа пленуме ухвалілі ў бліжэйшы час склікаць зьезд «Маладняка».

Побач з арганізацыяй філіяў, наладжваньнем вечароў «Маладняка», диспутаў, агітацыйных выступленьняў—вялася выдавецкая праца. Творчасьць маладнякоўцаў рэалізавалася праз Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, і праз уласнае выданьне (кніжніца «Маладняк»)

У лістападзе 1925 г. быў склікан 1 зьезд «Маладняка», які раней праведзеную працу і гэты кароткі час існаваньня арганізацыі назваў пэрыядам арганізацыйнага афармленьня «Маладняк». За гэты час ён «палітычна» заваяваў пануючую роль у беларускай літаратуры, умацаваўшы ў ёй свае рэвалюцыйна-наватарскія ідэі і выпрацаваў мэтады шырокай літаратурна-грамадзкай працы.

Пасьля зьезду ў гісторыі «Маладняка» пачаўся новы пэрыяд разьвіцьця. «Разьвіцьцё і пашырэньне сацыялістычнага будаўніцтва БССР, шырокае сталае разгортваньне будаўніцтва беларускае культуры пад кіраўніцтвам пралетарыяту і камуністычнай партыі, а таксама зьвязаная з агульным эканамічным і палітычным разьвіцьцём ўнутраная эвалюцыя ў шэрагах «Маладняка»—усё гэта прывяло яго да патрэбнасьці некаторай зьмены, паглыбленьня, удасканаленьня мэтадаў працы, увяло яго ў другі пэрыяд існаваньня...»

Патрэбна было адракціся ад безперабойных, неадкланных агітацыйных выступленьняў, ад выпуску ў сьвет «бурапеннай» літаратуры. Патрэбна было перайсьці ад «непасрэднае барацьбы» да «мірнага будаўніцтва», як гэта зазначыла ЦБ «Маладняка» ў Савецкай Беларусі ад 28/XI—1926 г.

Вось тут і пачаўся першы зацяжны крызіс у шэрагах «Маладняка», які выліўся ў выхад групы таварышоў з арганізацыі. У чым былі разыходзіны?

Таварышы трымаюцца думкі, што задача сучаснае літаратуры «выхаваньне новага чалавека—грамадзяніна, чалавека сацыялістычнай грамады». Гэта значыць, што таварышы адмаўляюцца адгукацца сваімі творамі на падзеі сёняшніх дзён, што таварышы ня вераць у стварэньне пралетарскай культуры **пэрыяду дыктатуры пралетарыяту,** а імкнуцца тварыць бязклясавую культуру.

Трымаючыся такой думкі, таварышы робяць і арганізацыйныя памылкі. Яны заяўляюць, што „не патрэбна філіяў і гурткоў, трэба каб 8—10 таленавітых асоб заняліся літаратурнай акадэмічнай працай і тварылі". Як бачым, таварышы хочуць утварыць „майстэрню літтвораў", узяць манаполію на літаратуру.

Няверые ў пабудову культуры пэрыяду дыктатуры пралетарыяту, няверые ў магчымасьць і неабходнасьць

вёсьці шырокую літаратурна-грамадзкую працу—паказвае, што таварышы збаяліся цяжкасьцей, адступілі перад цяжкасьцямі.

Клясавае расслаеньне ў горадзе і і вёсцы паставілі перад „Маладняком“ магчымасьць дыфэрэнцыяцыі (падзелу на часткі). Выхад групы таварышоў і ёсьць водгук гэтага працэсу.

Як мы павінны разглядваць гэты выхад?

„Маладняк“ пазбавіўся часткі хворых, ня зусім здаровых ідэолёгічных элемэнтаў і гэты выхад групы таварышоў мы будзем ацэньваць, як ідэолёгічнае аздараўленьне арганізацыі.

## Неабходна ўдасканальваньне мэтадаў працы „Маладняка“.

Ад шырокае літаратурна-грамадзкае працы „Маладняк“ адракціся ня можа, бо гэта адзін з спосабаў утрымацца на правільных ідэёвых пазыцыях. Неабходнасьць яе адзначыў і сакратар ЦК КП(б)Б, тав. Крыніцкі, у сваём прывітаньні „Маладняку“ з прычыны юбілею.

Патрэбна будзе толькі ўнесьці нейкае разьмяжаваньне між літаратурна-грамадзкай працай і літаратурна-творчай.

Патрэбна будзе ўзмацніць паднясьце ўсебаковага культурнага ўзроўню маладнякоўцаў.

Патрэбна будзе змагацца за якасьць мастацкасьць творчасьці.

Патрэбна будзе арганізаваць сур'ёзную марксыцкую крытыку—вось канкрэтныя бліжэйшыя задачы „Маладняка“, якія вызначыла ЦБ. (Сав. Бел. ад 28/XI—1926 г.)

---

# Менск. Ц. Б. „Маладняку“

Сход працоўных г. Клімавіч адзначаючы трохгадовы шлях літаратурнае творчасьці «Ммаладняка», шчыра вітае пралетарскіх пісьменьнікаў, дзяцей Кастрычніка і чакае яшчэ большай Вашай дзейнасьці на карысьць Савецкай Беларусі. ПРЭЗЫДЫУМ.

---

# Калінінская філія „Маладняка“

„Маладняк“ у Калініншчыну пранік толькі пасьля свайго 1 пленуму. Філія „Маладняка“ арганізавана ў сакавіку месяцы, а фактычнае існаваньне пачала са дню выхаду ў сьвет „Маладняка Калініншчыны“ (май, 1925 г.) З дапамогай гэтае лістоўкі (такім быў у пачатку „М. К.“) было ў кароткіх рысах азнаёмлена насельніцтва з „Маладняком“ і гэта прабудзіла маладыя творчыя сілы акругі, якія пацягнуліся да „Маладняка“. Выхад чарговых нумароў органу філіі і АК ЛКСМБ „Маладняк Калініншчыны“ павялічвае гэту цягу.

І Калінінская філія расьце. Калі ў пачатку было ў ёй 7 асоб, з каторых пісалі толькі 2 (аж сьмешна прызнацца), дык сёньня маецца кадр, творчае ядро, якое згрупавана вакол органу філіі. Хто чытаў апошнія два нумары „Маладняка Калініншчыны“ (№ № 3—4 і 5—6), дык той згадзіцца з тым, што многія з іх абяцаюць багатую будучыну.

Філія мае пры сабе два гурткі: Хоцімскі і Амсьціслаўскі.

Першы мае 5 сяброў гуртка, з іх частка—мастакі. Амсьціслаўскі мае 6 сяброў і абяцае далей шпарка расьці, чаму спрые тое, што гурток знаходзіцца пры пэдтэхнікуме.

Маецца на ўвазе арганізаваць гурток у Самацеевічах (Касьцюковіцкі раён.)

Сталых сяброў „Маладняка“ у Калінінскай філіі—2 За апошні час высунулася шмат студыйцаў, якіх патрэбна будзе ў бліжэйшы час перадаць у сапраўдныя сябры «Маладняка».

Кепска ў філіі пастаўлена літаратурна-грамадзкая праца і унутры—выхаваўчая. Адсутнасьць моцных тэарытычных сіл у самой філіі, слабая увага з боку ЦБ „Маладняка“, як на слабейшую з усіх іншых філіяў—усё гэта востра адбіваецца на працы і на росьце філіі.

З боку Акругкому КПБ і за апошні час ад Акругкому ЛКСМБ філія карыстаецца увагай і дапамогай у працы, З гэтага боку дырэктыва т. Крыніцкага на 1 зьездзе Маладняка, што усе пытаньні, патрабаваньні дапамогі і парадаў акруговым філіям „Маладняка“ павінны праз камсамол даходзіць да Акругкому КПБ—у Калінінскай філіі ажыцьцяўляецца досыць здавальняюча.

Глеба для росту ёсьць, спрыяючыя умовы ёсьць, патрэбна толькі большая увага (у сэнсе індывідуальнага падыходу) з боку ЦБ „Маладняка“ і большая напорнасьць у працы саміх Калінінскіх Маладнякоўцаў і філія ня будзе ў ліку другіх філіяў апошняй.

**К. Кагановіч.**

**Зьм. Астапенка.**

* * *

І дзень за ноччу, і ноч за днём
Чаргой бязконцаю праходзіць.
Зьвініць жыцьцё, бліщчыць агнём.
Імчыцца ў дзіўным карагодзе.

Пайду, пайду на шыр палян
Душой у прасторы акунуся,
Абніме ў сьцяж душа мая
Прасторы маці Беларусі.

Пайду на вёску, адгукнусь
Ёй песьняй гулкіх сутарэньняў,
Паклічу звонкую вясну
З вянкамі сонечных праменьняў.

І дзень за ноччу, і ноч за днём.
Чаргой бязконцаю праходзяць.
Сьпяваю песьні ў тахт з жыцьцём
У яго агністым карагодзе.

**Янка Гоманаў.**

# ПЕСЬНЯ.

Ой, размахні, ты песьня, крыльлем
у палёх сталёвы звон рассып!...
Сягоньні далі заіскрыліcь
у крышталях сонечнай расы...

І расквітнелі краскі волі,
І зашумелі ў тахт бары,
Што дні бурлівыя сваволяць,
Што новых дзён агонь гарыць...

З лістоў саян саткала восень
і палікоў узорных ніць.
Ой, то ня казкаю збылося
і ня мінорамі зьвініць.

Дык размахні ты песьня крыльлем
у палёх сталёвы звон рассып—
Ня дарма далі заіскрыліcь
у крышталях сонечнай расы.

---

* * *

Ціха дрэвы шапочуць лістам,
Праменьні сонейка косіць.
І чаму-ж ды ящчэ ня сьцяміць.
Што прышла срэбралістая восень!

Ды й ці можна цяпер сумаваць,
Над прасторамі родных палёў.

**Янка Панамароў.**

Ну, дык што-ж калі жоўкне трава?
Асыпаецца лісьцем гальлё.

Лісьця з дрэваў зьляцець да вясны,
А з прыходам красуньні прыгожай,
Ажывецца ўсё пахам лясным;
Бо загінуць нічога ня можа...

---

**Самае каштоўнае ў „Маладняку"—гэта тое, што „Маладняк" зьяўляецца шырокаю арганізацыяй, якая ўцягнула ў свае рады шмат рэвалюцыйных сіл рабочых і сялян, што ўся літаратурная і выхаваўчая праца «Маладняка» і маладнякоўцаў шчыльна ўвязваецца з палітычнаю працаю і барацьбою рабочае клясы і сялянства, камсамолу, камуністычнае партыі. Гэтыя два моманты зьяўляецца важнаю гарантыяй таго, што і далей „Маладняк" здолее выхоўваць сваіх сяброў у духу дыктатуры пралетарыяту і пралетарскае лініі ў літаратуры,—гарантыяй таго, што „Маладняк" на справе здолее ўсё больш рэалізаваць сваю волю і жаданьне—быць арганізацыяй пралетарскіх пісьменьнікаў, што ў гэтым напрамку „Маладняк" здолее з сялян і сялянскіх інтэлігэнтаў выпрацаваць паэтаў і літаратараў, якія дадуць селяніну літаратуру ў поўнай меры пралетарскую па зьместу.**

**А. Крыніцкі.**

**Думкі „Маладняка“ радзіліся раней, чым тры гады таму назад. Яны радзіліся тады, калі босыя змагаліся на вогнішчы, калі грымелі пяруны Кастрычнікавай Рэвалюцыі. „Маладняк“ ёсьць сын Кастрычнікавай Рэвалюцыі. Заданьне яго—тварыць элямэнты пралетарскай культуры. Лічу, што сваё заданьне ён выканае.**

**У. Ігнатоўскі.**

---

**Я. Міхневіч.**

* * *

Прыгледжуся да навакольля,
Імчыцца дзён вірлівых натаўп:
То сьцішыць бег, то зноў паболіць.
Ня будзе кволаму спагады,
На ўхабнай сьцежцы ногі зломіць!

Ня любіць сьцежка наша кволых,
Чыё ў палёце крыльле вяне!
Ня вучыць час схіляці голаў
К распранутаму ветрам долу,
Глытаць тугу неспадзявана!

Каса, саха, гумно і поле
Расьцілі нас і гартавалі,
Віхры-буруны далі волю
І песьню пець к сабе гукалі,
Калі гулялі навакольлем.

За урачыстасьцямі будні
Занітаваліся талакою...
Вятры ня бралі сілы дуба,—
Нас чад тугі ня ўпоіць!

---

**Ю. Таўбін**

Амсьціслаўская група
„Маладняк“.

Сінія далі,
Сінія высі...
Мне спадабалісь
Говары лісьця.

Ў высі крышталяць
Зораньці—вочы...
Мне спадабалісь
Зорныя ночы.

Шмат мне прарочаць,
Шмат чаго дараць
Цёмныя ночы,
Сьветлыя мары...

Хай адкрасуюць
Дрэваў карункі,
А ня згублю я,
Іх падарункаў.

Буду я помніць,
Што мне казалі
Вечарам цёмным
Сінія далі.

Сінія далі,
Сінія высі,
Зоры—крышталі,
Шорахі лісьця.

**Янка Панамароў.**

## СТРУМЕНЬ ЖЫЦЬЦЯ.

Што у жыцьці ляскоча адгалоскам,
Пераказаць, дык і ня хопіць слоў!
Новы гул і хваляў новы лёскат,
Нясе у даль і горад, і сяло.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Плыве у хвалях будучыны новай,
Плыве і плёскае, і ломіць перагіб.
Паразламаў струмень жыцьця аковы,
Вякі вадою падмылі берагі.

Яго і ня стрымаць, хто цэлымі вякамі
Прастору не даваў і цінуў жвір яго.
Дык ці стрымаць-жа берагавы камень,
Калі вада шуміць, бяжыць бягом?!

Ну, ці стрымаць-жа хвалі маладыя—
І той вялікі шлях таксама ці стрымаць?
Дык і навошта траціць словы тыя,
Калі упэўнен кожны, што дарма!...

Што у жыцьці ляскоча адгалоскам,
Пераказаць, дык і ня хопіць слоў!
Новы гул і хваляў новы лёскат
Нясе у даль і горад, і сяло!...

# 20-х гадовы юбілей літаратурнай творчасьці Якуба Коласа.

## Якуб Колас—народны паэт

**Прызнаючы вялікае значэньне для працоўных-беларусаў: беларускай культуры, літаратурна-мастацкай дзейнасьці беларускага паэта Якуба Коласа, Савет Народных Камісараў Беларусі, у адзнаку 20-х гадовай літаратурнай працы паэта пастанавіў:**

**1. Даць званьне Якубу Коласу—Народнага Паэта.**

**2. Назначыць яму пажыцьцёвую пэнсію ў разьмеры стаўкі адказных палітычных работнікаў Беларусі.**

## Менск І. Б. К. Якубу Коласу.

Працоўныя г. Клімавіч, сабраўшыся на сход прысьведчаны юбілею Вашага 20-цёх гадовае літаратурнай дзейнасьці шчыра Вас вітаюць і жадаюць посьпеху ў далейшай вашай працы на карысьць рабочых і сялян.

ПРЭЗЫДЫУМ.

## Якуб Калос (Канстантын Міцкевіч)

Якуб Колас (Канстантын Міцкевіч) нарадзіўся ў 1882 годзе ў сялянскай хаце, у засьценку Акінчыцы Менскага павету, Менскай губэрні. Сяляне вёскі Мікалаеўшчыны, адкуль быў родам яго бацька, часта пасылалі сваіх дзяцей адукавацца да Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Так зрабілі й бацькі Якуба Коласа. Будучы ў сэмінарыі, пясьняр не прарываў зьвязку з тою глебаю, якая яго выгадавала. Скончыўшы сэмінарыю, Міцкевіч зрабіўся вясковым настаўнікам. Тут перад ім устала пытаньне, на якой мове трэба вучыць вясковых дзяцей. Адказ на гэтае пытаньне быў ясны: вясковых дзяцей трэба вучыць на іх роднай мове, на якой яны гаворацць у сваёй хаце, Каб дабіцца гэтага, Якуб Колас залажыў хаўрус беларускіх настаўнікаў, за што і павінен быў потым заплаціць трама гадамі турмы. Пасьля турмы доўга прышлося песьняру шукаць сабе работы і толькі праз нейкі час дабіўся ён месца настаўніка.

Рана пачуў Якуб Колас у сабе пясьнярскі дар. З добраю песьняю, з прызывам да працы, з надзеяю на лепшую будучыню выступіў пясьняр на шлях жыцьця. Ён спадзяваўся разбудзіць братоў сваіх ад векавечнага сну. У 1906 годзе у беларускім часопісу «Наша Доля» быў надрукаваны яго першы верш—прызыў да сваіх братоў, да сваёй старонкі.

**Зьм. Астапенко.**

Ой рассыпся, песьня,
Звонкай златаструньню
Па зялёным гаі,
Па зялёнай руні!
Рассыпайся звонам,
Стройным сугалосьсем—
Як шуміць у полі
роднае калосьсе.
Пей, ты, як на лузе
чуць сялян размовы,
На начлезе казкі.
Ноччу ля дубравы.

Як па стрэхі вёсцы
ціха ноч зьлятае,
Песьня, мая радасьць,
Песьня залатая!
Як жытнёвым гмахам,
Дружнай грамадою
Раз па раз будуюць
жыцьцё маладое.
Як сьмяюцца новым
Яравыя далі—
што далі мне песьню,
Змалку ўзгадавалі.

Ю. Таўбін.

## ГЭТА НАМ.

Нас мільлёны... Мы інакшай
Лепшай долі кавалі!
Нашу долю, наша шчасьце
Мы ў жыцьці сабе знашлі.

Хто сказаў што мы усталі,
Што няма ў нас гарту сіл?
Алым полымем запалім
Аксамітны небахіл.

Гэта нам шапоча казкі
Сінявокі небазвод.
Гэта намківаюць краскі
Русакудрай галавой.

Гэта нам сьмяюцца зоры
Нас вітае ясакар,—
Нам бруіцца у прасторы
Срэбралітная рака.

Гэта нашай юнай раці,
Поўнай пэнту і красы
Шлюць паклоны сенажаці
І зялёныя лясы.

Гэта нам сьпявае гымны
Буйны вецер трысьці
Мы, адважныя, ня згінем
Пераможам у жыцьці.

Мы ня згінем! Песьняй-лавай
Закрынічым у палёх
З намі сіла, з намі права
З намі наш бурлівы лёс.

---

Юлій Таўбін.

## ЯКУБУ КОЛАСУ.

Сінім вечарам неба сіняе,
Неба сіняе, зорак рад...
Прывітаньне-ж табе арлінае
Ад дзяцей тваіх арлянят!

Пачынаў ты ў восень шэрую
Пад насьмешкі, пад зьдзекі, глум,
А сягоньня ад нашых шэрагаў
Шлём вітаньне старому арлу.

Сёньня словы—у бунтарскай постаці,
Сёньня ў словах—агнём запал...
Сваёй песьняй шчырай і простаю
Ты ў юнацкае сэрца запаў.

Песьня, любая сэрцу юнацкаму,
Разьліваецца ў шэрагі хат...
Прывітаньне-ж табе маладняцкае
Ад дзяцей тваіх—арлянят!

---

# Што і чаму не пашло да друку.

—СТРУЖЦЫ: Твой верш „Чырвоны Сьцяг“ ня пойдзе ў друк. Багата русіцызмаў: „акцябр“, „лікуем“, „сплаціць“ і г. д. Пры тым верш—голы крык:

„Дык хай-жа рэе сьцяг чырвоны!
Няхай крэпне камунізм!
Далоў паноў! Далоў тэроры!
Далоў банкіраў і фашызм!“

—Д. ЮДЗЯНКОВУ: „Чарговае“ ваша ня будзе друкавацца. Вы пішаце:

„Зямля—сялянам, а рабочым
І фабрыкі і прамысловасьць.
Чарговае—няхай жыве
Савецкая, чырвоная законнасьць!

Па-першае—гэта зусім няправільна. Па-другое—ня вучыцеся ў Журбы ўжываць ня поэтычныя выразы. У таго ў адным нумары „Полымя“ было:

„...праца ў краёх пралетарскіх
маналітнасьцю—гартам сагрэта“.

А ў вас—прамысловасьць, законнасьць.

—В. Е. РАДЧАНКУ: На гэты раз твае ўсе тры вершы да друку не падходзяць. Русіцызмы—„жызьнерадасны“, „успряне“, „успыхне“.

Другое—думку, якую ты хочаш выказаць, да канца ты ня вытрымоўваеш, а зьбіваешся ў бок, альбо няправільна выказваеш. Ты крыўдзішся, калі цябе абвінілі ва ўхіле ў нездаровасьці. Што ты чытаеш народныя песьні, вывучаеш іх і карыстаеш—відочна. Але ты ня бярэш ад іх прыгожай формы, а і зьмест, напр.: індывідуалізм, лішнюю сумоту („Песьня“) і г. д. Працуй, прысылай новыя рэчы, пабачым.

—КОЛЮ: Пішы, можа што й выйдзе. Гэтыя-ж вершы, што ты прыслаў, ня пойдуць. А вобразаў у вершах тваіх, як бульбы ў крупніку дзевятнаццатага году. У гэтым напрамку ў цябе вялікая хіба. З боку формы (тэхнікі вершу) таксама. А шчырасьць у цябе ёсьць.

—Я. ДЗЬМІТРАЧЭНКУ: Вершы да друку не падыходзяць. Пішыце лепш прозай. Шліфуйце сваю мову больш старанна і упарта.

—АГЕЯНКАВУ: „Ігрышча“ ня пойдзе. Вы пішаце цалкам пад „Тарас на парнасе“ і „Энэіда на выварат“, толькі ў нашых савецкіх умовах.

Апісальныя здольнасьці у вас бязспрэчны, ёсьць трапныя вобразы, але ў цэлым рэч ня мае ніякай каштоўнасьці.

„Праздник девятилетия Октября“ трохі лепш напісана, але па расейску.

„Роспуск з женой“ і „Промчались годы“—таксама ня пойдуць. Кепска, што вы цалкам зьдзіраеце з Некрасава і з песьні „Последний нынешний денечек“.

—Раману ЛЯШКО: Вашы вершы: „Нікуды не пайду“, „Цьвяты“, „Толькі цёмна стане“. „Смычка“ і асабовы ліст т. Юргялевічу рэдакцыя атрымала. Першае, што вам патрэбна сказаць шчыра і адкрыта: пакіньце пісаць вершы, паэта з вас ня будзе. Вы захварэлі на вершаманію і ў сьне вам здаецца, што вы маеце „прыродны дар літаратуры“.

Вы вучань школы сялянскай моладзі. Раім вам лепш напружна заняцца вучобай, працуйце над сабой, каб стаць добрым грамадзкім працаўнікам. Жадаем, каб вы як мага хутчэй пазбавіліся свайго пэсімізму, які засьляпіў вам вочы.

—П. ШЫНКАРОВУ: У вашых частушках „Пад трохрадку“ ёсьць досыць удалыя мясьціны, як напрыклад:

„А мой міленькі скасеў,
к другой барышні прысеў.
Я стаяла—думала,
завярнулась, плюнула.

—Але ёсьць і дужа наіўныя мясьціны, як напрыклад:

„Харашо ў лапцях хадзіць,
ды дрэнна абувацца,
харашо дзяўчат любіць—
дрэнна раставацца“.

Толькі вось што кепска: вы бярыце цалкам народныя частушкі і выдаеце за свае уласныя, як гэта вы зрабілі з вышэйнапісанай частушкай: „А мой міленькі скасеў“. Прысылайце народныя частушкі, рэдакцыя надрукуе, але-ж адзначайце—што гэта народнае, дзе вы чулі (у якой вёсцы) і г. д.

Здольнасьці у вас ёсьць. Пішаце досыць гладка і чыста, нават цікава. Працуйце, прысылайце новыя, будзем друкаваць.

—В. ДАБРАВОЛЬСКАМУ: „Другу—Кастрычніку“—ня пойдзе. Слабы верш—выкарыстаць нельга. Карэспандэнт вы добры, а як паэта—зусім слабы.

—М. АЎСЯНЬНІКАВУ: „Пагібшым барцам“—друкавацца ня будзе. Вы нешта хацелі напісаць на кшталт жалобнага маршу (нават рытм: „вы жэртваю палі), але ў вас нічога ня вышла. Пішыце на іншыя тэмы, можа выйдзе лепш.

—А. БАРЫСЁНКУ: Пашоў ты, браце, нешта „У брод“ і выходзе кепска. Вершы ў цябе ня ўдаюцца,—няма вобразаў, гэтай галоўнай адзнакі паэты. Прабуй пісаць прозай.

—М. ВОСТРАМУ: Вы таксама, як Ляшко, нешта прыхварнулі. Вы пішаце, напрыклад, як малацілі цэпам і вам балела сьпіна і між іншым адзначаеце:

„А яна ў мяне гнуцца ня гнулась,
Сагінацца—у пекла ісьці,
У ёй была вялікая чуласьць,
Якая бывае ва ўсіх.
Бывае ва ўсіх у маладосьці;
Кволая сьпіна калі,
Калі дзеці усе ягамосьці,
Нібы, як тыя паны.

Перачытайце яшчэ раз самі—гэта-ж поўная недарэчнасьць. У вершу „Песьня маладога хлапца“ вы пішаце:

...„Дабіваўся у бацькі грошай
Для каханай у шахты хацеў.
Усё для яе, для харошай
Над гэтаю душкай пацеў“.

З боку формы у вас адчуваюцца маленькія праблескі здольнасьцей, але наконт зьместу—бяда!

Сьмешна становіцца, калі чытаеш, і разам балюча: вы піанэр і аддавацца такім рэчам вам рана, шкодна. Вы два гады ў атрадзе, а піанэрскага выхаваньня на вашых рэчах не адчуваецца Раім пакінуць пісаць вершы, а заняцца вучобай, працуйце ў атрадзе і камсамоле. Пакіньце чытаць старыя авантурыстычныя раманы, чытайце новую белетрыстыку.

—Зьмітр. АСТАПЕНКУ: Верш „На горадзе“—друкавацца ў „Сьвітаньні“ ня будзе. Чакаем новых твораў.

—Лявону АСТАПЕНКУ: Усе дасланыя вамі вершы—друкавацца ня будуць—рыфмаваная проза ня больш і загэтым друкаваць няма сэнсу.

—П. С.: Ты, дружа, агітуеш у 1926 г. за савецкую уладу ў краіне Саветаў. Так рабіць няварта—безкарысна. Паэта з цябе ня будзе, пісаць вершы далей ня раім.

—Янку ГРУШКОВУ: Твае вершы: „Янку Купалу“, „Беларус“, „Даволі паспалі“, „Матарыст“, „Нёман“—ня пойдуць. Пішы, друкуй у насьценгазэце вашага дзетдому, а калі акрэпнеш, будзе выходзіць добра—прысылай у „Сьвітаньне“. Працуй больш над сабой, чытай старэйшых і маладзейшых бел. пісьменьнікаў.

—Н. ЧУБАКОВУ: Твае ніжэйпералічаныя творы друкавацца ня будуць:—Вершы: „Камсамолкі йшлі да дому“, „Гары“, „Дудар“, „На чужыне“, „Дні нашы новыя“, „Па-над вёскай“, „Камуністы“, „Сьмерць селькора“, „Сыны камсамоліі“ і апавяданьні:—„Кірмаш у Хоцімску“, „Першамайскія дні“ і „Не дачакаліся вынікаў“.

Як ні жаль, а трэба сказаць, што ты мала працуеш над сабой у сэнсе паляпшэньня сваіх твораў, паляпшэньня іх якасьці. Проза ў цябе выходзе лепш чымся вершы. Папробуй упарта папрацаваць у гэтым напрамку. Чакаем новых рэчаў.

Пішы аб жыцьці і працы групы „Маладняка“.

—А. ЖОРАВУ, А. ВАЛІЙСКАМУ, А. ВЯСЁЛАМУ, Г. ТОЙЛЕВУ, А. РАЗАНЦАВУ, КАЧАНКОВУ: вашы вершы і частушкі ня пойдуць, слабыя.

—Янку ПАНАМАРОВУ: „Струмень жыцьця“ і „Ціха дрэвы шапочуць лістамі“ зьмяшчаем. Ніжэйпералічаныя вершы друкавацца ў „Сьвітаньні“ ня будуць: „Асеньняе“, „Там, дзе сіняй дымкай“, „Сёньня, сёньня ўзноў бадзёры“, „Вечарэла“. Прагляд гэтых вершаў дае уражаньне, што ты за апошні час вырас, як паэта. Неабходна зьвяртаць больш увагі на чыстату мовы. Дасылай новыя рэчы, выдрукуем.

—Ал. ДУДЗЕ: Пішы, як распачынае працу ваш гурток „Маладняка“, дасылай свае творы, будзем зьмяшчаць.

**Карлі Кагановіч.**